# Тыднёвік Магілёўскі




№ 18 (82) 12-18 траўня 2000 г. Кошт 50 руб.


14 ТРАЎНЯ – 5-Я ГАДАВІНА РЭФЭРЭНДУМА "АБ МОВЕ"

## ...З мовай уратуемся




Фота Д. НОВІКАВА

*Днямі адной зарэгістраванай грамадзкай структурай у Магілёве стала болей. Атрымала пасьведчаньне абласная арганізацыя Таварыства беларускай мовы (далей – МАА ТБМ).*

*Не абыйшлося і тут бяз казусаў, якія апошнім часам сталі звыклымі ў адносінах да роднае мовы: пасьведчаньне аб уліку Таварыства **беларускай** мовы было выпісана на расейскай, бо не знайшлося блянкаў на тытульнай мове краіны. Толькі нашая катэгарычная адмова атрымліваць такое пасьведчаньне прымусіла чыноўнікаў усё-ж пашукаць іншыя блянкі. І яны знайшліся, хаця й старога ўзору.*

*Крыху гісторыі пытаньня. Абласная арганізацыя Таварыства беларускай мовы была створана 27 траўня 1993 года на базе пяці раённых і дзьвюх гарадзкіх арганізацый (у Магілёве і Бабруйску). Патрэбы ранейшага існаваньня гэтай структуры не было, раённыя арганізацыі ажыцьцяўлялі непасрэдныя кантакты з рэспубліканскімі органамі. Але набліжаліся выбары і новая арганізацыя, што мела б права вылучаць кандыдатаў і ажыцьцяўляць кантроль за ходам выбараў, была вельмі дарэчы. Гэта й стала на той час адной з асноўных форм нашай дзейнасьці.*

*Яшчэ адной, ці не найважнейшай працай, стала актыўнае спрыяньне пашырэньню беларускамоўнай адукацыі. Пры невялікай дапамозе аблвыканкаму пачаў працу нядзельны беларускі ліцэй ТБМ (дырэктар – Юрась Півуноў) як філія Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра. Адкрыўся прыватны беларускі дзіцячы садок (найперш намаганьнямі Надзеі Крэйдзікавай). Выкладчыкі ВНУ (Лявон Латоцін у пэдінстытуце, Аркадзь Смаляк у тэхналягічным інстытуце й інш.) пераводзілі свае курсы лекцыяў на беларускую мову, на якой чытаюць і сёньня. Амаль 7% магілёўскіх школьнікаў (кожны 16-ы) вучыліся на роднай мове. Рыхтавалася дакумэнтацыя на адкрыцьцё ў Магілёве беларускага ліцэя (гэтую ідэю задушылі намесьнік старшыні аблвыканкама Яўген Касьцюковіч і тагачасны начальнік упраўленьня адукацыі Анатоль Раманаў).*

*...З прыходам да ўлады Лукашэнкі працэс беларускага Адраджэньня стаў тармозіцца, больш за тое – зварочвацца. Чаго каштуе толькі "моўны" рэфэрэндум-95. Пачаўся жорсткі ўціск на грамадзкія арганізацыі, якія клапаціліся пра лёс і пэрспэктыву ўсяго нацыянальнага. Пазачыняліся беларускія садкі і клясы. Уводзіліся розныя перарэгістрацыі з мэтай задушыць гэтыя арганізацыі ці хаця б ускладніць іх дзейнасьць.*

*Паказальная ў гэтым сэнсе гісторыя першай перарэгістрацыі абласной ТБМ. Міністэрства юстыцыі зарэгістравала статут ТБМ, адпаведна якому для стварэньня абласной арганізацыі патрабавалася наяўнасьць ня менш чым трох раённых (гарадзкіх) арганізацый. Але калі ўсе неабходныя дакумэнты былі перададзены абласнаму ўпраўленьню юстыцыі, там адмовілі ў рэгістрацыі на той падставе, што абласная арганізацыя створана на аснове шасьці раённых, а гэта, маўляў, не ахоплівае большасьці раёнаў вобласьці. Міністэрства юстыцыі пацьвердзіла правільнасьць адмовы, тым самым запярэчыўшы сябе. Такім чынам, пяць год МАА ТБМ дзейнічала ў "віртуальным" рэжыме.*

*На цяперашняй перарэгістрацыі гэтых пытаньняў ужо не ўзьнікала. Абласную арганізацыю ТБМ утварылі, як гэта дазваляе закон, тры арганізацыі, што прайшлі перарэгістрацыю раней: Асіповіцкая раённая (Таццяна Барэль), Шклоўская раённая (Аляксандар Грудзіна) і Магілёўская гарадзкая (Яраслаў Клімуць). У Бабруйску, Горках, Касьцюковічах і Крычаве дзейнічаюць пакуль малалікія суполкі ТБМ, якія раённых арганізацый яшчэ не стварылі.*

*Для гэтых ды іншых раёнаў нагадваем, што суполка ТБМ ствараецца пры наяўнасьці ня менш чым трох прыхільнікаў ТБМ, а тры суполкі могуць стварыць раённую арганізацыю. Абвяшчаючы гэта, спадзяемся на тое, што ў кожным раёне Магілёўшчыны знойдуцца людзі, якія яшчэ пачуваюць сябе беларусамі і разумеюць пагрозу, што навісла над нашым народам, які мае багатую, доўгую і слаўную гісторыю.*

*Сёньня трэба абараняць сябе як народ, як нацыю. І найперш трэба абараніць родную мову, якая стагодзьдзямі ўхвальна служыла свайму народу, а сёньня ў ролі нібы паланянкі чакае выратаваньня. Чакае яго ад нас, яе сыноў і дачок!..*

***Міхась БУЛАВАЦКІ,***
***старшыня абласной арганізацыі ТБМ***

## Дэмакраты не забыліся на праўду аб вайне

Раніцай дня Перамогі магілёўцы маглі бачыць невялікую групу людзей, якія кветкамі і хвілінай маўчаньня аддалі даніну павагі і смутку па ахвярах Другой сусьветнай вайны. Група наведала вайсковыя могілкі па вул.Лазарэнкі, помнік на месцы былога канцлягера па пр.Шмідта і мэмарыял абаронцам горада на Буйніцкім полі.

Да гэтага дня афіцыйныя акцыі з нагоды 9 траўня, як вядома, ужо прайшлі. Таму нямала людзей выявілі цікавасьць да падзеі і яе ўдзельнікаў.

То былі прадстаўнікі дэмакратычных арганізацыяў горада, якія адмыслова наладзілі сваю ўрачыстую акцыю менавіта 9 траўня, калі на вуліцах і ля памятных месцаў была бальшыня вэтэранаў, для якіх гэты дзень ёсьць сьвятым і асаблівым. Невыпадковым быў і выбар менавіта гэтых помнікаў мінулай вайны. Дэмакраты ўшанавалі ня толькі тых, каго справядліва прынята лічыць пераможцамі, аднак і тых, хто зь першых жа дзён вайны па віне тагачаснага кіраўніцтва СССР апынуўся ў канцлягерах альбо загінуў у выніку негатовасьці арміі да супраціву.

Акцыя дэмакратаў была прыхільна сустрэтая яе сьведкамі.

***Ф.АНАТОЛЬЕЎ***

## Недзе пахаваны і мой дзед...

...Сыходзіць з жыцьцёвай сцэны пакаленьне колішніх ваенных часоў. Зразумела, што – найперш тыя, хто непасрэдна прайшоў ваеннымі дарогамі. Дажываюць сваё і тыя, хто не ваяваў, але вайну бачыў, жыў пры ёй, уратаваўся пад немцам. Сярод іх мая бабуля.

З падлеткавага ўзросту чуў яе расповяды пра тое, чым была вайна тут, у нашай вёсцы. Расповяды гэтыя вельмі адрозьніваліся ад таго, што даводзілася вучыць у школе. Самае несупадзеннае – партызаны. Толькі й чулі на ўроках, чыталі ў газэтах і часопісах, бачылі ў кіно: народныя мсьціўцы, абаронцы, героі... А насамрэч, па сьведчаньні маёй бабулі ды іншых аднавяскоўцаў – гэта былі часьцей за ўсё рабаўнікі, п'яніцы і баязьліўцы. Толькі над мірным насельніцтвам і зьдзекваліся.

Гэта партызан зьбіў да непрытомнасьці маю бабулю за тое, што схавала чаравікі. Гэта партызан забіў палутарагадавалага сыночка ў нашай цёткі Агапы, калі цэліўся прыкладам ружжа па ёй, а патрапіў у малечу. Гэта з-за нейкай ня вельмі ўдалай, дарэчы, партызанскай вылазцы ў суседнюю вёску, немцы спалілі яе...

Калі ў школьным узросьце я пярэчыў бабулі, маўляў, у кніжках усё ня так, як яна расказвае, – бабуля, уздыхаючы, казала: "Можа дзе ў іншых месцах былі іншыя партызаны, а ў нас – толькі тыя, пра каго кажу, каго сама бачыла і ведала".

...Недзе пад Кёнігсбэргам пахаваны мой дзед Іван. Не давялося пабываць на яго магіле ні ягонай жонцы, ні ягоным дзецям, ні ягоным унукам. Жылі бедна, дазволіць сабе такую паездку не маглі раней. Зараз – і таго горш, зусім няма пра гэта гаворкі.

***Л.ВІКТАРОВІЧ, рабочы***

**Магілёў. Вечны агонь. 9 траўня 2000 году. 12-я гадзіна раніцы...**



Фота А.ЛІЦІНА



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Дзень Перамогі ў Шклове быў перанесены на 2 дні наперад. Прайшлі дэманстрацыя працоўных, парад сельгастэхнікі, вэтэранская вячэра. Такі сцэнар быў узгоднены зь земляком, намесьнікам старшыні Палаты прадстаўнікоў У.Канаплёвым. Відаць, адзін з самых верных паплечнікаў Лукашэнкі не хацеў пакідаць сталіцу 9 траўня: ваенны парад – гэта вам ня коўзаньне перад трыбунай сенакасілак! Не зьявіцца на вочы ў родным раёне на сьвята ён таксама ня мог: па кожнай нагодзе вязе ў раён шыкоўныя падарункі (цяжка паверыць, што за свой кошт). Гэтым разам, праўда, падарункам быў ён сам.

На 10% зьменшыўся, згодна афіцыйных зьвестак, жывёльны статак Магілёўшчыны, на 26% зараз менш надойваецца малака, на 11% менш здалі мяса на мясакамбінаты. Прычыны ўсім вядомыя. Агульны крызыс, дурное кіраўніцтва, сьляпое выкананьне уладных глупстваў, – вось яны, прычыны. Але сапраўдныя лічбы колькасных стратаў жывёльнага статку яшчэ вышэйшыя. Бо калі прэзыдэнт загадаў не забіваць каровак, дык самых дохлых працягвалі захоўваць. Ад іх сёньня ані мяса, ані малака. Але загад выкананы.

Таварыш Кулакоўскі прызначаны памочнікам прэзыдэнта і галоўным інспэктарам па Магілёўскай вобласьці. Нагадаем, што гэты чыноўнік быў начальнікам сьледчай групы, што "даказвала", які злачынец Васіль Старавойтаў. Цяпер той чыноўнік будзе шукаць злачынцаў у цэлай вобласьці. Праўда, кантралёраў сёньня ў нас (магчыма) больш, чым саміх злачынцаў. Але можна не сумнявацца, таварыш Кулакоўскі працу сабе знойдзе.

Вось некаторыя лічбы нашай эканомікі. Запазычанасьць прамысловасьці вырасла амаль на 20%, стратных аб'ектаў у вобласьці налічваецца аж пад 140, рэнтабельнасьць звалілася з 10% да 6%. Гэтыя лічбы толькі вонкава далёкія ад звычайнага жыцьця. Насамрэч яны сапраўды яго адлюстроўваюць. Напрыклад, да паловы экспарту магілёўскіх прадпрыемстваў склаў бартэр. Гэта значыць, што замест грошай на інвэстыцыі і заробкі, прамысловасьць атрымала абы што. Напрыклад, на вытворчым аб'яднаньні "Хімвалакно" заробкі выдавалі коўдрамі. Што з тымі коўдрамі рабіць, ніхто не тлумачыў. Хіба, залезьці пад іх і ляжаць...

У вобласьці вызваленыя ад працы кіраўнікі шэрагу раённых упраўленьняў сельскай гаспадаркі. Начальнікаў пакаралі за тое, што сялянам не выплочваюць заробкаў. У агульнай суме запазычанасьці сельская доля – ільвіная, 80%. Да паўгады людзі ня бачаць сваіх рублёў. Безумоўна, сярод гэтых начальнікаў мала тых, хто шчыра клапаціўся аб людзях. Але ж вінаватымі зрабілі "стрэлачнікаў". Нібыта яны ствараюць такое становішча, нібыта зь іншымі начальнікамі будзе лепш. З апошнім можна пагадзіцца, але толькі ў дачыненьні да аднаго, самага галоўнага ў Беларусі начальніка.

Суткі змагаліся за жыцьцё 20-гадовай магілёўскай дзяўчыны мэдыкі. Яна паступіла ў больніцу ў стане беспрытомнасьці й з дыягназам – наркатычнае атручваньне. Кажучы па-просту, дзяўчына перабрала з наркотыкамі. Сёньня ўсё больш маладых людзей трапляюць у пастку сьмяротнай залежнасьці, шукаючы, як яны думаюць, тое, што адсутнічае ў жыцьці – надзею і адчуваньне шчасьця.

Аказваецца, у Магілёве нулявы прырост насельніцтва. Пра гэта было паведамлена на прэсавай канфэрэнцыі намесьніка старшыні гарвыканкаму В.Гаканава. Сумны факт, які сьведчыць найперш, што жыцьцё ў нас далёка "ня цукар". Але вось цікавая акалічнасьць. Насельніцтва не расьце, штогод у горадзе будаўнікі ўводзяць па некалькі тысячаў кватэраў, але нашая жыльлёвая чарга ніяк не скарачаецца. Чаму? У чыноўніка адказ адзіны: "дрэнна будуем, трэба будаваць лепей". Але ж чаму будуем дрэнна? Чаму як было, так і засталося "блатное" разьмеркаваньне кватэраў? На гэтыя пытаньні, якія гучаць ужо не адно дзесяцігодзьдзе (!), чарговы чыноўнік ніяк не адказаў. Ці то ня ведае й ня кажа, ці то ведае й таму ня кажа.

Абласны савет дазволіў калгасам і саўгасам не плаціць прадугледжаныя заканадаўствам мясцовыя падаткі і зборы. Гучыць гэта як адтэрміноўка, маўляў, пазьней расплоцяцца. Колькі гэта грошай? Думаю, ніхто і ня ведае. Таму што ніколі за апошнія 10 гадоў гаспадаркі не расплочваліся зь бюджэтам цалкам. А цяпер, калі яны жывуць не на заробкі, а на крэдыты, больш лягічна размаўляць пра крэдытную запазычанасьць. Але ж увогуле, адзначым, што як ты не называй, усё роўна, пасьля таго як тэрмін пройдзе, запазычанасьць проста сьпішуць. Пра гэта ведаюць усе й не хвалююцца.

*Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.*

## Бывайце, Іван Іванавіч...

Учора Цэнтральны раённы суд г. Магілёва пад старшынствам судзьдзі Б.Прошкі і пракурора Н.Галанавай пасьля 2-дзённага слуханьня справы па грамадзянскаму зыску І.І.Мартынава да газэты «Тыднёвік Магілёўскі» і аўтара артыкула «Партыёты» М.Булавацкага аб абароне годнасьці І.І.Мартынава і спагнаньні ў пакрыцьцё ягоных маральных стратаў з рэдакцыі і аўтара 2500000 (два мільёны пяцьсот тысяч) новых рублёў прыняў рашэньне **адмовіць у прызнаньні зыску**. Суд у ходзе адкрытага абмеркаваньня прэтэнзіяў прарэктара Магілёўскага ўнівэрсытэта І.І.Мартынава не знайшоў падставаў для пакараньня аўтара артыкула і газэты толькі за тое, што яны маюць па некаторых палітыка-ідэалягічных праблемах іншыя погляды, чым тыя, на якіх стаіць І.І.Мартынаў.

**Па Канстытуцыі** гэта ў нашай краіне дазваляецца.

Разам з тым суд устанавіў, што ў публікацыі ўтрымліваюцца некаторыя недакладнасьці, якія, аднак, **па закону** немагчыма прызнаць за тыя, што наносяць шкоду рэпутацыі чалавека альбо зьяўляюцца абразай на ягоны адрас. Рэдакцыя і аўтар, хаця суд гэтага ад іх не патрабаваў, прыносяць свае прабачэньні І.І.Мартынаву за недакладнасьці, што носяць не наўмысны характар, а ёсьць вынікам журналісцкай работы, якую робяць звычайныя людзі.

Разам з гэтым мы паведамляем, што назаўсёды разьвітваемся з І.І.Мартынавым. Цяпер ён можа без азіраньня на «Тыднёвік Магілёўскі» пісаць што заўгодна і на любую тэму. Мы разьвітваемся з такім пэрсанажам публікацыяў як Іван Іванавіч Мартынаў. Ні пры якіх абставінах, ні па якой прычыне ягонае прозьвішча ніколі ня будзе ўзгадвацца ў «Тыднёвіку Магілёўскім».

Бывайце, Іван Іванавіч!

Посьпехаў Вам у нястомнай барацьбе за патрыятызм.

*Рэдакцыя газэты «Тыднёвік Магілёўскі». Магілёў, 11 траўня 2000 года.*

## Прэс-рэліз Сакратарыята Ўсебеларускага Зьезду

Аргкамітэт Усебеларускага Зьезду вызначыў парадак вылучэньня дэлегатаў для ўдзелу ў працы Зьезда ад тэрыторыяў і арганізацыяў.

Каб забясьпечыць шырокі грамадзкі ўдзел у абмеркаваньні будучыні беларускай дзяржавы, прынятае рашэньне, што для ўдзелу ў першай сэсіі Ўсебеларускага Зьезду жыхары кожнага раёна, горада, раёна ў горадзе маюць права на сходах вылучыць сваіх дэлегатаў. Колькасьць прадстаўнікоў ад кожнай адміністратыўнай адзінкі залежыць ад колькасьці выбаршчыкаў, якія пражываюць на яе тэрыторыі. Напрыклад, калі ў раёне (горадзе, раёне ў горадзе) пражывае 10 тысяч выбаршчыкаў, ад яго вылучаецца 1 дэлегат, калі 20 тысяч – 2 дэлегаты й г.д. Каб забясьпечыць належныя ўмовы вылучэньня дэлегатаў, правядзеньне сходаў абавязкова ўзгадняецца з Аргкамітэтам Усебеларускага Зьезда.

Тыя арганізацыі, што зарэгістраваліся ў Аргкамітэце, маюць права вылучыць сваіх дэлегатаў, зыходзячы з наступных квотаў: рэспубліканскія грамадзкія арганізацыі, палітычныя партыі, прафэсійныя і творчыя саюзы, нацыянальныя зямляцтвы маюць права вылучыць аднаго дэлегата ад кіруючага органа і яшчэ па адным ад кожнай сваёй абласной структуры. Абласныя, гарадзкія і раённыя грамадзкія арганізацыі таксама маюць права вылучыць на Ўсебеларускі Зьезд аднаго дэлегата.

Пратаколы сходаў па вылучэньні дэлегатаў павінны быць прадстаўленыя ў Сакратарыят Аргкамітэта да пачатку чэрвеня.

Дэлегатамі Зьезда таксама могуць стаць дэпутаты Вярхоўнага Савету 13 скліканьня, кал яны не пазьней як за два тыдні да пачатку працы Зьезда зарэгіструюцца ў Сакратарыяце Аргкамітэту.

У Сакратарыяце таксама можна атрымаць больш падрабязныя тлумачэньні наконт працэсу вылучэньня дэлегатаў.

***Кантактны тэлефон Сакратарыята Ўсебеларускага Зьезду: (017) 223-65-29***

## "Рэгіянальная Беларусь" у Магілёве

Здаецца, ужо ўсе газэты паведамілі пра тое, што ў абласным цэнтры створана Каардынацыйная рада (ледзь не фіксаваная арганізацыя), якая далучылася да вядомай гарадзенскай ініцыятывы Сямёна Домаша *(гл. "ТМ" №14)* па аб'яднаньні рэгіянальных грамадзка-палітычных рэсурсаў на карысьць узгодненых "гарызантальных" дзеяньняў.

Аднак "ТМ", не забягаючы наперад, цярпліва чакаў дакладнай і адказнай інфармацыі на гэты конт, ведаючы, што намеры ў нас, на жаль, часта выдаюцца за ўжо зьдзейсьненае, а пляны – за справы. І вось – тое, за праўдзівасьць чаго мы адказваем.

У пазамінулы ***чацьвер*** (ранейшыя сьведчаньні пра падзею сапраўднасьці не адпавядаюць) у абласным цэнтры, пасьля папярэдніх складаных і прынцыповых дыскусіяў у грамадзка-палітычным асяродзьдзі, утворана аб'яднаўчая палітычна-грамадзкая структура. Гэта адбылося на агульным сходзе паўнамоцных прадстаўнікоў палітычных і грамадзкіх арганізацыяў. У структуру на гэтым этапе ўвайшлі 15 арганізацыяў, якія вызнаюць за прыярытэты дэмакратыю, незалежнасьць, правы чалавека. Сход прыняў палажэньне аб дзейнасьці і працэдуры працы новай структуры. Яна будзе зьбірацца не радзей аднаго разу на месяц для прыняцьця скаардынаваных рашэньняў па пэўных палітычных і грамадзкіх пытаньнях, асабліва калі будзе патрабавацца аб'яднаньне наяўных сілаў, намаганьняў і сродкаў. Пакуль структура ня будзе мець фіксаванага кіраўніка: на кожнай дзелавой сустрэчы будзе адмыслова выбірацца старшыня паседжаньня. Аднак для прадстаўніцтва ў падобнай рэспубліканскай структуры, а таксама для апэратыўных кантактаў за межамі вобласьці сход ад свайго імя надзяліў такімі паўнамоцтвамі дырэктара ГА "Кола сяброў" Віталя Васількова і старшыню абласной арганізацыі БНФ (В.Вячоркі) Анатоля Фёдарава.

Бліжэйшай сумеснай акцыяй новай грамадзка-палітычнай структуры ў Магілёве мусіць стаць смуткавае адзначэньне (14 траўня) чарговай гадавіны першага Беларускага рэфэрэндума – аб мове. Ініцыятары "сьвяткаваньня" маюць намер у неардынарнай форме давесьці да грамадства тую простую думку, што ўсё дрэннае ў жыцьці краіны пачалося з "усенароднага галасаваньня" за так званую "роўнасьць моваў".

*Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях палітыкі*

РОЗГАЛАС СЬВЯТОЧНЫХ ДЗЁН

## Да чаго вядзе абязалаўка

Даволі жахлівае ўражаньне пакінулі мінулыя працяглыя выходныя. Я кажу пра моладзь, якой шмат было гэтымі днямі на вуліцы, на кожным "пераможным" мерапрыемстве, на могілках у Радаўніцу. Частку іх дарослыя арганізатары розных імпрэзаў прыцягнулі прымусова, значна больш маладых прынялі "удзел" па сваёй ініцыятыве і на сваё разуменьне. Паколькі з-за фармалізму, раскошы і зьнешняга размаху высакароднасьць падзеі 55-гадовай даўніны была падмененая гучнасьцю аркестраў і патрыятычнай паказухай, моладзь ахвотна, як цяпер гаворыцца, "адрывалася".

Паўсюль шмат было маладых (ня толькі хлопцаў, дарэчы) на ладным падпітку. Паўсюль любую моладзевую кампанію суправаджалі недарэчны рогат, гучная гаворка і мацяршчына. Паўсюль адносіны сярод маладых даходзілі нярэдка да "гарачай кроплі", а дзе-нідзе выліліся ў бойкі без прычынаў і сэнсу...

Гэта, дарэчы, у нас не ўпершыню: сьвята, гуляй, усё можна! Ды й як яшчэ можна сьвяткаваць па савецкіх сцэнарах?!

Гэтымі днямі горад быў не ў распараджэньні тых, для каго быццам ладзілася сьвяткаваньне, а збольшага – у распараджэньні нявыхаванай і нястрыманай моладзі, якая скарыстала магчымасьці вольна пагуляць на "усю катушку". Міліцыянты, дарэчы, паўсюль ставіліся да гэтага "з разуменьнем". То ж былі не нялюбыя імі "палітычныя адмарозкі". Тое былі ім "сацыяльна блізкія". Такая катэгорыя народу існавала пры Сталіне. Ёй даравалася ўсё: п'янства, крымінальшчына, любая подласьць, абы толькі былі "верныя правадыру і Радзіме"...

Ці ня тое ж дзеіцца зараз у нас?

***Валянціна НАВІЦКАЯ, удзельніца "сьвяткаваньня"***

## Яшчэ крок па шляху да адкрытасьці

Учора з вобласьці да сябе на радзіму ад'ехала дэлегацыя польскіх недзяржаўных арганізацыяў, якая правяла ў рабочых кантактах зь мясцовымі калегамі тры дні. Госьці пабывалі ў абласным цэнтры, а таксама – Бабруйску і Асіповічах. Паўсюль іх суправаджалі прадстаўнікі магілёўскага "Кола сяброў", якое ўзяло на сябе забесьпячэньне дзелавога візыту польскіх калегаў.

Нягледзячы на тое, што візыт прыйшоўся на "пераможныя" сьвяточныя дні, гасьцям ня далі, ды яны й не імкнуліся самі, адпачыць: дзелавыя кантакты, праблемныя гаворкі, рабочыя сустрэчы з актывістамі недзяржаўнага грамадзкага руху на Магілёўшчыне выявілі ўзаемную зацікаўленасьць у сумесных намаганьнях на карысьць дэмакратыяў у абодвух краінах й імкненьне да партнэрскіх сувязяў, якія б былі напоўненыя практычнай работай.

Польскія госьці з гэтай нагоды выявілі нядрэннае веданьне палітычнай сытуацыі ў нашай краіне, якая мала спрыяе разьвіцьцю так званага трэцяга сэктару. Па той жа прычыне некаторымі здабыткамі мясцовага грамадзкага руху, асабліва ў правінцыі, яны былі па-добраму ўражаныя. Актывісты грамадзкіх ініцыятываў суседняй краіны падтрымалі намаганьні нашых недзяржаўных арганізацыяў найперш у разьвіцьці незалежных інфармацыйных выданьняў, якія збольшага існуюць на энтузіязме і здольнасьцях спрычыненых людзей, чымсьці на матэрыяльных падставах. Гасьцей таксама прывабіла мноства самых розных грамадзкіх праектаў, якія ставяць перад сабой менавіта грамадзкія, а не злабадзёныя палітычныя мэты. Гэта тым больш значна, што польскія сябры з сваёй нядаўняй гісторыі ведаюць, як гэта нялёгка ў пэўны момант разьвіцьця грамадства і краіны: аддзяліць адно ад другога. Як ведаюць і тое, што пабудова адкрытага грамадства пераважае палітычную актуальнасьць, бо наперад гарантуе дэмакратычную і цывілізаваную палітыку... Як прыйсьці да такога грамадзтва – тое й было тэмай дзелавога гасьцяваньня польскіх сябраў у магілёўскіх калегаў.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па праблемах грамадзкага жыцьця***

